Цана асобнага нумару 20 гр.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

№ 3 (196) Вільня, Аўторак 20 Траўня 1930 г. Год (VI)



# Сялянская Ніва

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу — палітычная, грамадзкая, літэратур. і гаспадарчая газэта

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, Людвісарская 1 (Wilno, Ludwisarska 1)
Рэдакцыя адчынена ад 11 да 1 гадз. дня.
ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ
Падпіска каштуе на год 4 зл., на паўгода — 2 зл., на 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК:
на 1-шай старонцы 60 гр., 2 і 3—50 гр., на 4-ай—40 грш. — за радок дробнага друку ў аднэй шпальце.

## У справе Лідзкіх выбараў.

Сёлета за некалькі ўжо толькі дзён, 25 траўня (мая) грамадзяне — выбаршчыкі Лідзкага, Шчучынскага, Валожынскага, Ашмянскага, Вялейскага і Маладэчанскага павету павінна пайсьці ў абвадовыя выбарныя камісіі і падаць галасы за кандыдацкія сьпіскі на паслоў. Дзеля таго, што гэтых сьпіскаў ёсьць некалькі, дык мы, каб дапамагчы выбаршчыкам, выбраць з усяе масы найлепшых прадстаўвікоў, даем тут маленькую характэрыстыку іх.

У мэтах здабыцьця, якнайбольш галасоў, ад кожнага выстаўлянага сьпіску ходзяць па вёсках агітатары і нагаварваюць галасаваць за той, ці іншы сьпісак, хвалячы сваіх кандыдатаў і абяцаючы залатыя горы ўжо ў недалёкай будучыне.

Асабліва энэргічную агітацыю вядзе польская партыя г. зв. „Строніцтва Хлопске," якая выступае пад № 10.

Не гаворачы ўжо нават аб тым, што гэтая партыя чужая нам па нацыі, калі глянем на яе дзеяльнасьць, дык увідзім, што яна вельмі шкодная ня толькі для беларусаў, але-ж наагул для ўсяго насельніцтва тутэйшага краю.

У польскіх палітычных і грамадзкіх колах, аж да гэтага часу, яшчэ ўсё істнуе пагляд, што ў беларускім краі, які яны называюць „Крэсы", ёсьць многа вольнае зямлі, якую можна аддаць каляністым з каронпай Польшчы. Вось чаму і мае беларускі край не пажаданае для яго, як вайсковае так і цывільнае асадніцтва і праяўляецца пагроза новае асадніцкае калянізацыі. Хто-ж праводзіць гэта?

Гэта праводзяць усе польскія партыі. А найстараньней робіць гэта „Строніцтво Хлопске." Дык, грамадзяне за яго сьпісак № 10 ня дайце ані воднага голасу. Гэта трэба моцна прыняць да сэрца і не дапусьціцца да таго, каб вы самыя, сваімі рукамі зрабілі для сябе шкоду, выбіраючы такіх паслоў, якія ня будуць бараніць вас.

Выстаўляны так-жа іншыя польскія сьпіскі, як № 2—польскія сацыялісты—„Пэпээсы", № 3 г. зв. „Вызваленьне," № 25—эндэкі. Усе яны маюць адну мэту— насадзіць на Беларусі асаднікаў, а самых беларусаў апалячыць, дык і зразумела, што яны для беларускага краю непажаданыя, а дзеля гэтага і ня трэба за іх галасаваць.

Тут была гутарка аб тых сьпісках, якія выстаўляны пад чыста польскімі фірмамі. Пэўна — яны праіграюцца. Аднак-жа польскія колы ня думаюць праігравацца: яны ўсімі способамі баламуцяць насельніцтва беларускага краю і, дзе ня возьмуць аткрыта там пускаюцца на ашуканства. Вось чаму ў Лідзкім выбарным вокрузе, выстаўляна два сьпіскі, якія маюць беларускія, ды яшчэ сялянска-работніцкі назоў. Людзі на гэтых сьпісках па нацыянальнай прыналежнасьці зьяўляюцца беларусамі, але-ж адны з іх разумеюць беларускасьць дзіка, як Янка Станкевіч, які дзеля гэтага і пашоў на угоду з польскай урадавай (казённай) групай і вядзе працу пад яе кіраўніцтвам, а другія — як г. зв. „беларускі сялянска-работніцкі клюб „Змаганьне" зусім не прызнае беларускасьці. Для людзей гэтай групы можа быць усё і польскае, абы такое, якое падпарадкуецца польскім камунізуючым дзейнікам.

Вось-жа дзеля таго, што яны ідуць рука ў руку з польскімі, варожым, для беларусаў і шкоднымі для беларускага краю, партыямі, выбаршчыкі не павінна за іх галасаваць. Няхай ведаюць гэтыя ашуканцы, што ім ня ўдаецца іх цёмная праца, што народ беларускі ўжо сьведамы — ведае што яму трэба і ведае што трэба рабіць.

Астаецца яшчэ адзін беларускі сьпісак № 18; за яго і трэба аддаць усе галасы, бо ён зьяўляецца нацыянальным беларускім, які разглядае справы так, каб было карысна насельніцтву беларускага краю і бараніць яго ад усякіх крыўдаў і шкодаў. Запраўднасьць у Сойме выявіла пры галасаваньні, што Янка Станкевіч галасаваў заўсёды разам з казённай партыяй, а клюб „Змаганьне" пераважна ўстрымліваўся. Так, напрыклад, было тагды калі ўрад падаў праект адчыніць консульства ў Каіры-Афрыка. Янка Станкевіч галасаваў з казённай партыяй за праектам. Дык няхай скажа, якая карысьць ад гэтага беларусам?

Устрымацца ад галасаваньня гэта знача — адчыніць дзьверы праходзячаму, аблягчыўшы яму ход. У Сойме дзе ўсё вырашаецца большасьцю галасоў, іншы раз на'т адзін голас мае рашаючае значэньне, вось чаму тагды, калі разглядаюцца справы шкодна для беларусаў і той хто ўстрымаецца ад галасаваньня — гэтым самым пазваляе тэй шкодзе стацца фактам. Сьледуючы сваей тактыцы, клюб „Змаганьне" ўстрымаўся на'т і тагды калі адбывалася галасаваньне за прапазыцыю аб крэдыты на беларускае школьніцтва — ім беларускай школы ня трэба, бо ня трэба яе—іх гаспадаром.

Абодва гэтыя фактары, як Янка Станкевіч, так і клюб „Змаганьне" не ўзялі ніякага ўдзелу у справе барацьбы з праектам новага асадніцтва: яны нідзе і ніяк не выступілі з пратэстам, а знача — асадніцтва, па іхняму, можа быць! Ці-ж ня шкодна гэта?...

І толькі паслы са сьпіску № 18 далажылі стараньняў колькі маглі, каб асадніцтва ўстрымаць і ўстрымалі!... Ці на доўга?

— Гэта будзе залежаць ад таго, які склад будзе, трохі зьмененага частковымі перавыбарамі, Сойму. Калі пройдзе Янка Станкевіч і людзі з клюбу „Змаганьне," дык напэўна новае асадніцтва будзе, бо яны асадніцтва падтрымаюць. А дзеля гэтага не галасуйце за іх. **Галасуйце за адзіны беларускі сьпісак № 18.** Бо толькі з гэтага сьпіску, паслы не абяцаючы залатых гарадоў, будуць змагацца з усякімі шкодамі і крыўдамі.

## Нашыя першыя кандыдаты сьпіску нумар 18.

**Більдзюкевіч Адам.** Родам з Радашкавіч, Маладэчанскага пав. Скончыў гандлёвую акадэмію, быў праз доўгі час сэкрэтаром беларускага Пасольскага Клюбу, шмат пісаў інтэрпэляцыяў да польскага ўраду, бароначы нашых сялян, быў старшынёю і галоўным закладчыкам Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, вёў ладжаныя Інстытутам беларускія коопэратыўна—гандлёвыя курсы, напісаў кніжку — „Асновы грамадзкай гаспадаркі", ніколі ня здрадзіў інтарэсаў беларускага народу і паміма цяжкіх жыцьцёвых варункаў, не пайшоў да сільных гэтага сьвету, як гэта зрабіў Янка Станкевіч.

**Пазьняк Янка** — сялянскі сын, Лідзкага павету, Суботніцкай гміны. Шырока ведамы беларускі народны дзеяч. На ніве беларускай вытрывала працуе ад 1917 г. У гэтым часе ў Вялейскім павеце ён арганізуе беларускую моладзь, закладае аматарскі беларускі тэатр, які разьяжджае па ўсім павеце і шырока нясе асьвету і беларускую народную сьведамасьць.

У тым-жа часе Янка Пазьняк быў вучыцелем у Будслаўскай беларускай гімназіі.

Ад 1919 ён працуе ў павеце Ашмянскім. Тут за беларускую працу польскія ўладу арыштавалі яго і пасадзілі ў вастрог, а звольніўшы, трымалі пад надзорам жандармэрыі 8 месяцаў.

У 1920 г. калі ў край наш былі прышоўшы бальшавікі, на зьездзе сялянскім у Ашмяне Я. Пазьняк дамагаецца выхаду бальшавікоў, каб даць магчымасьць беларусам узяць свой лёс у свае ўласныя рукі.

Ад 1925 г. пачынае беларускую народную і грамадзкую працу ў пав. Віленска-Троцкім, асабліва ў гмінным самаўрадзе, Міцкунскай гміны, Рада якой, бяручы пад увагу заслугі Я. Пазьняка для сялянства, надзяліла яго тытулам ганаровага грамадзяніна тэйжа гміны.

Ад 1928 г. Я. Пазьняк прабывае ў Вільні, дзе спаўняе небясьпечныя абавязкі рэдактара „Беларускай Крыніцы". За гэтую працу ўжо мае аж некулькі палітычных судовых спраў.

Як знаўца самаўрадаў, напісаў пабеларуску брашуру аб гмінных самаўрадах.

**Чэрніхаў** — знаны ў Вільні адвакат, жыд, трэці каннydат на сьпіску нумар 18, свайго мандату зрокся на карысьць беларусаў. Зрачэньне яго ў сваім часе было абвешчана ў газэтах.

**Малец Ян** — чацьверты кандыдат, сялянскі сын Лідзкага пав., народны вучыцель.

## Першы мая і буржуазная тактыка.

На працягу 30 гадоў першы дзень мая сьвяткуецца як сьвята працоўных людзей. У гэты дзень работнікі пакідаюць працу і выходзячы ўсей масай паказваюць сваю згоднасьць і сілу, выстаўляючы свае дамаганьні ад гаспадароў-працадаўцаў.

На пачатку гэтае сьвята ахопвала малы лік работнікаў і пашырана было на невялікі абшар нашай плянэты. Але-ж год за годам яно шырылася, а цяпер ужо і запраўды было-б вялізарным, калі-б не здарылася нешта такое, што стало на перашкодзе. Гэтае нешта ёсьць тое, што работнікі падзяліліся на некалькі паасобных арганізацыяў і цяпер здараецца так, што замест таго, каб змагацца з працадаўцамі за палепшаньне свайго быту, змагаюцца між сабою за ідэалы прадстаўленыя кожнай групай паасобку.

Там, дзе першамайскае сьвята праходзіць спакойна, дык буржуазныя ўрады адносяцца неяк нейтральна, а там, дзе могуць паўстаць забурэньні, дык урады стараюцца наводзіць парадак.

І вось у мэтах гэтага, у леташнім годзе бадай што ў самай Францыі, а сёлета і ў іншых дзяржавах, улада яшчэ перад першым днём мая арыштоўваюць некаторых „майстроў" ад забурэньняў і садзяць іх у вастрогі, а на другі дзень пасьля сьвяткаваньня звальняюць.

Гаворачы аб першым дню сёлетняга мая, можна сказаць, што ён прайшоў зусім спакойна. Нідзе і ніякіх забурэньняў ня здарылася, а дэманстрацыі, або зусім не адбыліся, або прайшлі без ніякага эфэкту: спакойна, вяла і ціха.

## Вокам па сьвеце.

### III.

Прычынай войнаў зьяўляецца тое, што на сьвеце ёсьць многа дзяржаў. Калі-б была адна дзяржава, дык ня было-б з кім ваяваць. Вось чаму ад самага пачатку культурнага жыцьця народаў істнуе ідэалістычная думка аб скасаваньні дзяржаўных межаў і правядзеньні ўсей Зямлі ў вялізарную дзяржаўную адзінку. Але-ж Зямля гэтак вялікая, на ёй жыве так шмат людзей, а ў іх столькі розных інтэрэсаў, што няма ніякае магчымасьці аб'яднаць чалавецтва. За ўвесь час наўставала тысячы розных праектаў, адбылося некалькі пробаў і ўсё-ж такі нічога карыснага ня выходзіць. Быў час, калі знаходзіліся ваякі і яны аружнаю сілаю зьбіралі ў адно вялікую колькасьць насельніцтва і вялікія абшары Зямлі, але-ж, у канцы-канцоў, усе рушылася і зьнікала, як гэта здарылася з Напалеонам, які заваяваў бадай-што ўсю Эўропу і нарэшце заламаўся ў Маскве.

Паўставалі і іншыя дзейнікі, як хрысьціянства, якое часамі мела тэндэнцыю і, як здавалася, усе магчымасьці злучыць у адзіна ўсё і ўсіх. Але-ж і тут нічога ня выйшла, бо пашырылася яно на адну трэцюю частку насельніцтва зямлі ды падзялілася на некалькі большых і меншых часьцін.

Зьявілася на'т і міжнародная мова—эспэранто, вельмі лёгкая але-ж нічога не памагае. І, ці не нарэшце, узьняўся яшчэ адзін дзейнік—эканамічны, гаспадарчы. Справа ў тым, што ўзаемнаадносіны між людзьмі гэтак складзіся, што адны без другіх, як бы і жыць ня могуць. Вядзецца гандаль—праз што адны прадаюць, другія купляюць той ці іншы прадукт, тую ці іншую рэч. Гэты гандаль стаўся такім дзейнікам, які сягае за межы, на'т і найбольшых дзяржаў. І вось-жа дзеля таго, каб гандаль—абмен між насельніцтвам вытворчымі прадуктамі—адбываўся нармальна, дык, па думцы тых людзей,—якія выстаўляюць гаспадарчую супольнасьць інтарэсаў, як аб'яднаўчы дзейнік,—на перашкодзе гэтаму стаяць дзяржаўныя межы. І калі адныя стараюцца па прынцыпу гаспадарчых інтарэсаў аб'яднаць чалавецтва способам паразуменьня, дык другія ізноў тасуюць фізычную сілу. Напрыклад, бальшавікі імкнуцца да гэтага праз усесьветную рэволюцыю.

Але-ж і гэты гаспадарчы дзейнік такжа тымчасам ня дасьць рэальных вынікаў і вось чаму!... Некаторыя рэчы амэрыканскага вытвару прадаюцца таньней у Польшчы, за польскія, тутэйшыя. У такіх праявах ніхто ня будзе плаціць даражэй за польскае, тагды калі ёсьць іншае, таньнейшае. Ад гэтага паніжаецца краёвая прадукцыя тавараў, а фабрыкі і ўсе вытворчыя варштаты зьмяншаюць працу. Людзі астаюцца бяз працы, а знача — і бяз сродкаў да жыцьця. У гэткіх вось выпадках за рэгуляваньне справы бярэцца урад: ён на прывозныя з-за граніцы тавары накладае вялікую пошліну. Ад гэтага прывозныя тавары даражэюць, а праз гэта краёвыя тавары знаходзяць набыўца, вытворчасьць — патрэбу дзейнасьці, а работнікі — працу.

Можна прадставіць справу іначай. Можна сказаць, што калі-б у дадзеным выпадку ня было дзяржаўных межаў між Амэрыкай і Польшчай, дык работнік з Польшчы паехаў-бы ў Амэрыку і там знайшоў-бы працу, а прамысловасьць у Польшчы няхай-бы занікала! Толькі-ж гэта не адпавядае сапраўднасьці, бо і ў Амэрыцы ёсьць каля чатырох мільёнаў безработных. І вось-жа дзеля гэтага, на сьвеце ідзе гандлёвая канкурэнцыя. Купцы аднэй дзяржавы стараюцца прадаваць сваей вытворчасьці таньней за другіх, а гэтым гаспадарча забіваць апошніх. Гэта і ўдалося-б шмат каму калі-б не абарона праз пасярэдніцтва пошліны.

Між Польшчаю і Нямеччынай нядаўна быў падпісаны гандлёвы дагавор. У сувязі з гэтым польскія купцы і наагул як урадавыя так і прыватныя гаспадарчыя дзейнікі думалі знайсьці збыт для польскіх земляробскіх прадуктаў. Адвакжа сталася зусім іначай, бо — немцы і цяпер бяз польскага мяса, яйкаў, масла і хлеба абходзяцца, але-ж дзеля таго, што ўсё гэта палякі магчыма змаглі-б прадаць таньней, дык было-б шкодна для нямецкага земляробства. Каб унікнуць гэтае шкоды, немцы павысілі пошліну на земляробскія прадукты, а дзеля гэтага сталася тое, што хоць польскі прадукт і таньнейшы сам па сабе, але-ж пошліна яго так уздаражыць, што ў Нямеччыне ніхто яго ня купіць.

Пісаць аб гэтым прышлося дзеля таго, што апошнім часамі францускі міністар Брыян узяўся вельмі старанна праводзіць паразуменьне між эўропейскімі дзяржавамі па форме Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі, дзе ёсьць 44 паасобныя дзяржавы аб'яднаныя ў адзін саюз. Там у кожным штаце ёсьць свае законы і парадкі, але-ж ёсьць і такія справы, якія належаць да агульнага фэдэратыўнага ураду. Рэч зразумелая, што праекты Брыяна ўжо раней асуджаны на няўдачу, бо ёсьць на сьвеце шмат людзей, а ў іх вялізарная лічба інтарэсаў, ды такіх, што—калі прыдатныя адным, дык не пажаданыя для іншых. І вось-жа той круг людзей, у якіх ёсьць супольныя інтарэсы, або твораць і трымаюць сваю абасобляннасьць, або імкнуцца да гэтага. З тэй прычыны між народамі вядзецца барацьба, аб праявах гэтага чытачы знойдуць весткі ў нашай хроніцы.

Зыркі.

## Навіны.

**Звальненьне з вастрогу б. пас. Б. Тарашкевіча і С. Рак-Міхайлоўскага.** Прасядзеўшы ў вастрозе па тры гады і некалькі месяцаў, нарэшце па загаду мін справядлівасьці звольнены з вастрогу б. пас. Б. Тарашкевіч і б. пас. С. Рак-Міхайлоўскі, як ведама, асуджаныя ў справе Грамады на час 6 гадоў цяжкога вастрогу.

Прычыны перадчаснага звальненьня ня ведамы: ведама толькі, што рэшта кары яшчэ не даравана. Аднак-жа польскія газэты пішуць, што для іх прэзыдэнт выдасьць спэцыяльную амнэстыю.

**Зняцьце канфіскаты з адрыўнога календара.** Сёлетні адрыўны календар, выданы грам. Войцікам быў канфіскаваны гарадзкім старастаю. Гэтымі днямі справу разглядаў акружны суд, які канфіскату з календара зьняў. Але-ж зразумела, што цяпер календар ужо вышаў з часу, дык знача, выдавец бязвінна ўцярпеў.

## Кароткія весткі.

— У Пэрсыі здарылася трасеньне зямлі ды такое страхатлівае, што 2 тысячы чалавек было забіта, а 5 тысяч паранена.

— Англійская газэта „Дэйлі Тэлеграф“ зьмясьціла вестку аб тым, што як у Англіі, таксама і ў іншых дзяржавах, вядуцца патаемныя спробы ўваружаньня аэрапланаў цяжкімі гарматамі.

— Англійскі міністар Гэндэрсон і савецкі пасол у Лёндыне Сакольнікаў падпісалі англійска-савецкі гандлёвы дагавор.

— У Токіо — японская сталіца — згарэла 350 дамоў.

— Па аблічэньні англійцаў, Расея вінавата Англіі 962 мільёны фунтаў штэрлінгаў. Акрамя таго ёсьць прыватныя прэтэнсіі англійскіх грамадзян да Расеі на 255 мільёнаў.

— У амэрыканскім горадзе Колумбе загарэўся катаржны вастрог. У часе пажару згарэла 317 арыштантаў.

— У Румыніі ў часе вялікоднага набажэнства ў мястэчку Костэшці загарэлася царква. Згінула ад пажару 109 чалавек.

— Кс. Ольшаўскас у Коўне прызнаны судом вінаватым у забойстве сваей каханкі, нейкай Усьцяноўскай, і асуджаны на 6 гадоў цяжкога вастрогу.

— Над Сахалінам пранеслася вялікай сілы бура. Забіта 200 чалавек.

— У Бірме здарылася трасеньне зямлі. Загінула пры гэтым 6 тысяч чалавек.

— Пітбургскі суд пазбавіў грамадзянства Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі Джона Тапалесані эмігранта з Вэнгрыі за тое, што ён зьяўляецца камуністым.

Тапалесані абжалаваў гэтую пастанову ў вышэйшую судовую інстанцыю, якая разгледзяла справу і прыгавор пітсбургскага суду прызнала правільным заявіўшы, што камуністыя ня могуць быць амэрыканскімі грамадзянамі.

## Беларускія справы.

**Выданьне і канфіската мэмарыялу.**

Яшчэ ў жніўні 1929 года Беларускі Пасольскі Клюб падаў у Лігу Нацыяў жалабу, у якой падрабязна абгаварыў палажэньне беларускага народу пад польскай уладай і прасіў Лігу Нацыяў заступіцца за беларусаў. Пасьля нейкага часу сэкрэтарыят Лігі Нацыяў прыслаў паведамленьне аб тым, што жалаба прынята. Тагды Беларускі Пасольскі Клюб рашыў надрукаваць жалабу асобай адбіткай і пашырыць яе сярод беларускіх народных мас у мэтах азнаямленьня са зьместам мэмарыялу — жалабы. Але-ж па выхадзе з друку, Віленскае Староства адбітку надрукаванага мэмарыялу сканфіскавала.

Як нас інфармуюць, Беларускі Пасольскі Клюб на бліжэйшым паседжаньні Сойму падае аб гэтым інтэрпэляцыю.

**Каталіцкі Зьезд.** У нядзелю 4 г. траўня адбыўся ў Вільні Зьезд каталікоў беларусаў і літоўцаў. Прысутных беларусаў і літоўцаў было больш як 300 прадстаўнікоў з розных мясцовасьцяў нашага краю. Зьезд выбраў камітэт па тры прадстаўнікі ад беларусаў і літоўцаў і пастанавіў дамагацца ўвядзеньня ў касьцельнае і рэлігійнае жыцьцё беларускай або літоўскай мовы (гледзячы дзе якое насельніцтва), пашырыць выдавецтва ў названых мовах, інфармаваць Апост. Сталіцу аб цяжкім палажэньні беларусаў і літоўцаў і г. д.

**Агульны сход Бел. Студэнскага Саюзу.** У нядзелю 11 г. траўня адбыўся агульны сход Беларускага Студэнскага Саюзу, на якім абгаварвалася шмат пытаньняў з яго жыцьця і дзейнасьці. Перавыбраны так-жа урад, у які ўвайшлі як старшыня грамадзянін Глінскі і сябрамі — С. Станкевіч, Бартуль і г. д.

Характэрна, што не абышлося і на гэты раз без пратэсту. Справа ў тым, што група студэнтаў дэманстрацыйна пакінула сход дзеля таго, што на сходзе праявіліся санацыйныя тэндэнцыі.

Прыходзіцца адзначыць прыкрае зьявішча: агульная маса студэнства не праяўляе ніякага зацікаўленьня ў грамадзкім жыцьці. Так, напрыклад, у часе галасаваньня, па некаторым пытаньнем, з агульнае масы прысутных каля 40 чалавек, бяруць удзел у галасаваньні толькі 15 чалавек. А рэшта ўстрымліваецца: так ці гэтак для іх — усёроўна!

**Да ведама Віленскай моладзі.** Настаў спартовы сэзон. Кожны, у вольных часінах ад працы, сьпяшыць за горад, каб там аддыхнуць здаровым паветрам і налюбавацца прыгожасьцю абуджанай ад зімовай сьпячкі прыроды.

Каб даць магчымасьць Віленскай моладзі карысьней і весялей правясьці сьвяточны вольны ад працы час, ініцыятары „Гайсака“ пастанавілі ладзіць кожную нядзелю і сьвята супольныя таварыскія прагулкі за горад. На гэтых прагулках кожны учасьнік, калі пажадае, будзе магчы ўпраўляць розныя таварыскія беларускія гульні і аддацца паўгадзіннай гімнастыцы без прыладаў паводле найноўшае сыстэмы.

Віленская моладзь! Дзяўчаты і хлопцы! замест драць падноскі, ходзячы па каўдобістых віленскіх тратуарах і аддыхаць шкодным сапсутым гарадзкім паветрам, усе старайцеся карыстаць з супольных таварыскіх прагулкаў.

Зборка кожную нядзелю і сьвята, а гадзіне 3-й па абедзе на Людвісарскай 1—19

Ветліва запрашаем.

**Гайсакі.**

## З жыцьця у Польшчы.

**Выбары ў польскай Сілезіі.**

У польскай Сілезіі, якая мае краёвы Сойм, адбыліся выбары. Выбрана 10 паслоў Бэ-бэ—урадавай партыі, 22 паслы з розных апазыцыйных да ураду партыяў, 2 камуністы і 16 немцаў. Характэрна тое, што гэтым разам немцы атрымалі амаль што 2 разы больш галасоў, як перад тым у выбарах 1922 году. Як відзім, дык нямецкія ўплывы растуць. А трэба ведаць, што і Сілезію засяляюць жыхары, якія па сваей нацыянальнасьці зьяўляюцца нечым адменным—яны ня ёсьць ані палякі, ані немцы.

